БІЗНЕС-КЛУБ

*Марвін СМОЛ:*

# «Я дапамагу вам стаць багатым. Калі вы сапраўды гэтага хочаце»

**По просьбе чытачоў мы друкуем урыўкі з кнігі аднаго з найбольш удачлівых амерыканскіх прадпрымальнікаў М. Смола «Як рабіць грошы». Яна ўвабрала ў сябе вопыт многіх бізнесменаў Захаду, якія дабіліся значнага поспеху. Аўтар абяцае фінансавае працвітанне ўсім, хто прыслухаецца да яго парад. Смол упэўнены: дзесяткі способаў разбагацець можна знайсці, не выходзячы з пакоя. Але папярэджвае: чытаць трэба ўдумліва, з алоўкам у руках.**

## ФОРМУЛА ПОСПЕХУ ВЕЛЬМІ ПРОСТАЯ

«Не хлебам адзіным жыве чалавек», — гаворыцца ў Бібліі. І сапраўды, просты заробак грошай можа быць вельмі сумным заняткам да таго часу, пакуль вы не адчуеце, што ваша работа неабходная, і пакуль вы не будзеце атрымліваць ад яе маральнага задавальнення. Як часта людзі жывуць бясплённа з-за таго, што іх пастаянная работа прыціскае іх. З іншага боку, неадольнае імкненне да накаплення багацця выціскае з людзей усе сілы і не пакідае іх для кахання і шчасця.

Так, мы хочам зарабляць шмат грошай, але пры гэтым мы таксама хочам жыць поўным, цікавым жыццём.

Дзякуй Богу, дабіцца можна і таго і другога. Я прашу вас з усёй сур'ёзнасцю аднесціся да таго, што адкрыецца вам на гэтых старонках. Вы зможаце абагаціць не толькі сябе, але, магчыма, і сваю краіну.

Існуе многа шляхоў дасягнення фінансавага поспеху. І столькі ж настаўнікаў і рэцэптаў. Але ў незалежнасці ад таго, які шлях вы выбераце, каго возьмеце сабе ў настаўнікі, якой філасофіі будзеце прытрымлівацца ў дасягненні багацця і становішча, **усё павінна пачынацца ў першую чаргу з вас самога.** Мы вам раскажам, як гэта зрабіць.

Для пачатку сфармулюем наступныя пяць правіл:

**1. Прыміце рашэнне: я магу рабіць грошы! У наш час у нашай краіне чалавек можа стаць багатым.**

**2. Для таго, каб зарабляць грошы, вы павінны думаць аб гэтым пастаянна — у час яды, прагулак і нават ноччу, калі спіце.**

**3. Існуе шмат галін дзейнасці, у якіх вы можаце дабіцца поспеху. Шукайце, і вы знойдзеце іх.**

**4. Вы будзеце памыляцца. Але не падайце духам. Вучыцеся на сваіх і чужых памылках. Пачынайце зноў з таго месца, дзе вы спатыкнуліся. Ідзіце наперад!**

**5. Калі вы спыніцеся на якой-небудзь ідэі, пастаянна прадумвайце яе, развівайце і не пакідайце да таго часу, пакуль не дасягнеце мэты.**

Вы павінны вывучыць сябе і свае здольнасці. Вы павінны вывучыць усе наяўныя магчымасці і, калі неабходна, адкрыць новыя. Калі вас збіваюць з ног, хутка ўставайце і садзіцеся «на каня, з якога вы ўпалі». Навучыцеся разумець, дзе вы памыляецеся. Будзьце дастаткова гібкімі, каб прыняць, прадумаць і змяніць напрамак дзеянняў, калі вы топчацеся на месцы.

З усяго свайго вопыту я зразумеў адну рэч. Яна тлумачыць сакрэт фінансавага поспеху і стабільнасці любой справы.

Я зразумеў, што ў грамадстве існуе рэальная патрэбнасць, і калі я задаволіў гэту патрэбнасць лепш, чым хто-небудзь іншы, то да мяне прыйшоў трывалы поспех.

Гэта формула настолькі дакладная, настолькі бяспройгрышная, што я выкарыстаў яе яшчэ некалькі разоў, паспяхова арганізаваўшы чатыры прадпрыемствы, якія працвітаюць і па сённяшні дзень: два — у галіне прадуктаў харчавання, адно — касметычнае і адно, якое выпускае тавары для мужчын. Гэта формула прымяняецца прамыслоўцамі, дробнымі і буйнымі гандлярамі, людзьмі вопытнымі і нявопытнымі; бухгалтарамі, адвакатамі, механікамі, мужчынамі і жанчынамі; маладымі і старымі.

У гэтай формуле ўсяго пяць слоў. Запомніце іх: **знайдзіце патрэбнасць і задавольце яе.**

Гэтыя словы дапамогуць вам зарабіць грошы, дадуць адчуванне надзейнасці і ўпэўненасці ў сабе, падораць радасць ад выканання ўскладзенай на вас місіі, узнагародзяць пачуццём глыбокага задавальнення ад таго, што вы адгукнуліся на чыёсьці духоўнае запатрабаванне.

Вядома, кожны, хто працуе, задавальняе нейкую існуючую ў грамадстве патрэбнасць. Работнікі картатэк, пасыльныя, афіцыянткі — усе яны займаюцца карыснай работай. Але патрабаванні, якія да іх прад'яўляюцца, параўнальна невысокія, таму ўзнагароджанне яны атрымліваюць невялікае. А Чарльз Кетэрынг, які вынайшаў аўтамабільны стартэр і выключыў карыстанне заводной ручкай, тым самым даў практычна ўсім (і асабліва жанчынам) магчымасць кіраваць машынай. Кетэрынг даў магчымасць мільёнам людзей карыстацца аўтамабілем. Ён задаволіў патрэбнасць, якая існавала ў грамадстве. І за гэта атрымаў вялікае ўзнагароджанне.

Відаць, з-за таго, што формула поспеху, выражаная пяццю словамі, настолькі відавочная і настолькі простая, многія часта не могуць паверыць у яе ўніверсальнасць. Ваша перавага заключаецца ў тым, што вы аб ёй даведаліся. А даведаўшыся пра яе, вы зможаце абысці ўсіх сваіх сапернікаў. Гэта адзіны прынцып у бізнесе, які павінен працаваць і які заўсёды працуе!

## ЯК ЗНАХОДЗІЦЬ ПАТРЭБНАСЦІ

З цвёрдай упэўненасцю можна сказаць: не патрэбнасці павінны шукаць вас, а вы павінны шукаць іх. Калі вы займаецеся гэтым мэтанакіравана, то да вашых намаганняў падключаецца падсвядомасць. А натхненне з'яўляецца толькі вынікам яго работы. За напружанымі няспыннымі пошукамі рашэння часта наступаюць шчаслівыя адкрыцці.

Аднойчы Леа Герстэнзанг назіраў за сваёй жонкай, калі яна купала іх маленькую дачку. Глядзеў, як яна спрабавала скруціць у жгуцік кавалачак ваты, каб пачысціць дзіцяці вочкі, носік і вушкі. І раптам ясна ўбачыў існуючую ў кожным доме, дзе ёсць маленькія дзеці, патрэбнасць. Так ён стварыў простую рэч—«К-ціпс» — гатовы да выкарыстання ватны тампон. Так і вы, знаходзячыся дома, шукайце, што можна выправіць ці палепшыць. Шукайце на фабрыцы, дзе вы працуеце, у канторы, у школе, у гаражы, у царкве — усюды, дзе вашы інтарэсы сутыкаюцца з інтарэсамі акружаючых.

Напрыклад, вы проста хатняя гаспадыня. Вам трэба засцілаць ложак, гатаваць яду, мыць посуд, чысціць каструлі. І кожная з гэтых спраў мае бясконцую колькасць магчымасцей для іх удасканалення.

Калі вы або ваш муж валодаеце здольнасцямі, можа, вам удасца вынайсці просты і надзейны электрычны прыбор для чысткі каструль, які можна было б умацаваць над ракавінай. Такія ж бязмежныя магчымасці для вынаходстваў у справе прыгатавання ежы. Прайдзіцеся па дому, успомніце свае штодзённыя справы, усюды вы знойдзеце тое, што можна змяніць і палепшыць.

Давайце паспрабуем, і вы зразумееце, што магчымасці ў гэтай галіне для навуковага ці прыкладнога складу розуму, ды і для звычайнага здаровага сэнсу бязмежныя.

Шукайце толькі буйныя патрэбнасці, якія існуюць у грамадстве, не трацьце сілы на нязначныя. Не займайцеся двухкапеечнымі прыстасаваннямі. Пазбягайце эксцэнтрычных ідэй, якія з'яўляюцца ў вас толькі для таго, каб задаволіць вашы вынаходніцкія амбіцыі. Можна дапусціць, што калі ўжо вы ўзяліся за чытанне гэтай кнігі, значыць, вы хочаце дабіцца фінансавых поспехаў, а не проста славы вынаходніка. А фінансавыя поспехі з'яўляюцца вынікам задавальнення існуючых у грамадстве патрэбнасцей, і больш нічога.

На гэтым вы можаце запярэчыць, што не валодаеце ніякімі творчымі здольнасцямі, што вы не вынаходнік і ніколі не станеце ім, як бы вы гэтага ні хацелі.

Але зусім неабавязкова нарадзіцца Томасам Эдысанам, каб распазнаць магчымасць вынаходства. Луіс Х. Рэгензбург не быў вынаходнікам, але прыдумаў спецыяльную падкладку для дывана, якая атрымала назву «Озайт», і разбагацеў.

Адзінае, што зближала Нейсана Харыса са справай хімічнай завіўкі валасоў,— гэта тое, што ён у якасці коміваяжора наведваў салоны прыгажосці. Але гэта не перашкодзіла яму зарабляць мільёны долараў на спецыяльным наборы «Тоні» для дамашняй хімічнай завіўкі валасоў. Харыс быў чалавекам, які мог убачыць патрэбнасць і пасля гэтага пачынаў карпатліва працаваць над яе задавальненнем.

Гэта кніга абавязкова прынясе немалы даход або пажыццёвыя працэнты тым мужчынам і жанчынам, хто натхніцца яе простым прынцыпам. Гэтыя людзі навучацца выяўляць скрытыя вакол іх патрэбнасці і задавальняць іх. А дапаможа ім у гэтым асабісты вопыт, даследаванні і эксперыменты, якія ім прыйдзецца праводзіць, а таксама сур'ёзнае прадумванне кожнай новай справы. І тады зробленыя імі адкрыцці стануць такімі ж захапляючымі і прыбытковымі, як і адкрыццё алмазаў.

## «МАЗГАВАЯ АТАКА» — ШЛЯХ ДА БАГАЦЦЯ

Зразумела, цікава чытаць аб тым, што дапамагло разбагацець іншым людзям. Але што трэба зрабіць, каб разбагацець самому?

Нашы ідэі — гэта адлюстраванне нашай думкі. Думкі ствараюцца работай мазгу. Як накіраваць гэту работу, каб у выніку нарадзілася ідэя?

Адзін з самых прадуктыўных метадаў заключаецца ў тым, каб стымуляваць сваю здольнасць думаць. Алекс Осбарн назваў гэты метад «мазгавой атакай». Вы павінны разглядзець той ці іншы прадмет з усіх магчымых пунктаў погляду і фіксаваць усе ідэі, якія проста прыходзяць у галаву, якімі б «прыцягнутымі за вушы» ці смешнымі яны ні здаваліся. Вы павінны бударажыць свой мозг да таго часу, пакуль не выцягнеце з яго ўсе існуючыя ў ім думкі. Осбарн прапаноўваў па гэтаму прынцыпу праводзіць спецыяльныя нарады. На гэтых нарадах нікому не дазваляецца крытыкаваць прапанаваныя кім-небудзь іншым ідэі, якімі б недарэчнымі яны ні здаваліся. Пасля нарады ўсе ідэі прасейваліся, прадумваліся, а найбольш перспектыўныя пачыналі распрацоўвацца.

Такім жа чынам паспрабуйце правесці індывідуальную «мазгавую атаку». Прычым вы можаце кіравацца табліцамі і спісамі, складзенымі на вопыце вырашэння падобных праблем. Табліца «мазгавой атакі», прыведзеная ніжэй, дапаможа вам. Яна будзе кіраваць працэсам вашага прадумвання, дасць пэўны накірунак вашым думкам і дапаможа ім ісці адна за адной.

Кожная фраза на табліцы «мазгавой атакі» ўяўляе сабой накірунак, у якім могуць быць палепшаны той ці іншы прадукт, працэс ці работа.

### ТАБЛІЦА «МАЗГАВОЙ АТАКІ»

Ці можна атрымаць такі ж вынік, не выкарыстоўваючы цяпер выкарыстоўваемы прадукт? Ці можна дасягнуць тых жа вынікаў, наогул не робячы гэтай работы?

**Ці можна зрабіць прадукт ці работу больш лёгкімі?**
**Ці можна зрабіць што-небудзь для паскарэння працэсу?**
**Ці можна зрабіць гэта больш прыемным?**
**Ці можна зрабіць гэта больш зручным?**
**Ці можна зрабіць гэта больш надзейным?**
**Якім чынам можна зрабіць гэта больш эфектыўна?**
**Ці можна зрабіць гэта больш танным?**
**Ці можна зрабіць гэты прадукт больш прыцягальным і яркім на выгляд?**
**Ці можна расшырыць сферу выкарыстання прадукту, зрабіць яго шматмэтавым?**
**Ці можна знайсці недэфармуемую ці больш трывалую форму?**
**Ці можна зрабіць гэта больш бяспечным?**
**Ці можна зрабіць гэта больш карысным?**
**Ці можна прыстасаваць яго да чагосьці іншага?**
**Ці можна гэта злучыць і развіць разам з іншымі вынаходствамі?**
**Ці можна зрабіць гэта больш зручным у выкарыстанні або больш партатыўным?**
**Ці можна палепшыць спосабы распаўсюджвання?**
**Ці можна палепшыць упакоўку?**
**Што яшчэ можна палепшыць?**

Выбірайце любы прадмет і пачынайце «мазгавую атаку». Вазьміце першае, што трапіцца на вочы. Скажам, бутэлечку з клеем, якая закрываецца гумавай накрыўкай з адтулінай. Прачытайце першыя дзве фразы. Яны прапануюць абдумаць магчымасць атрымання такога ж выніку без выкарыстання ўжо наяўнага прадукту і не робячы той жа работы. Ці ёсць такая магчымасць у нашым выпадку? Ці можам мы прапанаваць замяняльнік клею, напрыклад, дзвюхбаковую клейкую стужку? Ці можна прыдумаць больш лёгкі спосаб прымянення клею? Больш хуткі? Проста лепшы?

Уважліва вывучыце ўсю табліцу, гэта значыць усе напрамкі, па якіх можа развівацца ваша думка. Калі вы пераканаецеся ў тым, што ў кожным напрамку вы дайшлі да канца, спыніцеся ненадоўга і пачынайце прадумваць наступны напрамак. Прарабіце гэту працэдуру з іншым прадуктам — можа, з тым, які выпускае або прадае ваш гаспадар, кліент, ваш сябар або вы самі. Такая метадычная сістэма самастымуляцыі дапаможа вам выявіць важную патрэбнасць або знайсці спосаб задаволіць яе.

Гуляйце ў гэту гульню — для грошай або проста так, для забавы, сам-насам з сабой або ў групе. Вы можаце прыцягнуць да гэтага сваіх суседзяў, сяброў, сваю сям'ю. Калі ў групе народзіцца добрая ідэя, можа вам усім разам удасца развіць яе. Мая вам парада — пачніце сёння ж гуляць у гэту гульню!

**(Працяг будзе).**

# «ПІШУ ПРА ГОРКУЮ ПРАЎДУ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

На чыгунку нас бралі часта. Вёска Новае Палессе была ў глушы, і фашысты наведваліся ў яе вельмі рэдка. Але ў 1943 годзе пачалася блакада, немцы прыціснулі партызан, і атрад пачаў адступаць. Бяззбройную камсамолію з сабой не ўзялі. Я ўбачыў сакратара райкома камсамола Гурскага, ён з жонкай уцякаў ад немцаў на павозцы. На просьбу ўзяць з сабой адказаў: «Ратуйцеся, як можаце».

Перад адступленнем у 1944 годзе немцы ўзялі мяне разам з іншымі адабранымі і вывезлі ў лагер Нойгамер. У няволі я пасябраваў з адным хлопцам, і мы вырашылі ўцякаць у Італію ці ў Югаславію да Ціта.

Мы пачалі распытваць аднаго італьянца — звалі яго Андрэ, — як прабрацца ў Італію. Ён згадзіўся быць нашым праваднікам. Гаварылі мы па-нямецку. У адну з бамбёжак мы ўцяклі, дабраліся да маленькай станцыі, дзе нам удалося залезці ў таварны вагон. Прыехалі ў Мюнхен. Тут перaселі ў другі таварняк і ў ім перасеклі італьянскую граніцу ў раёне Брэнера, горнага перавала ў Альпах.

Андрэ пайшоў сваёй дарогай, а мы трапілі ў лапы жандараў. Нас пад канвоем адвезлі ў горад Верона ў лагер ваеннапалонных. З яго мы ўцяклі без цяжкасці. Ішлі ад вёскі да вёскі. Італьянцы, народ добры, сардэчны, кармілі нас. Так мы прыйшлі ў невялікі гарадок каля Мілана. Там быў заводзік, выпускаў нейкія прыборы. Нас акружылі італьянскія рабочыя, а калі даведаліся, што мы рускія, прывялі хлопца. Ён загаварыў з намі на чыстай рускай мове. Бацька Валодзі быў італьянскі падданы, яго разам з сям'ёй выслалі ў 1938 годзе ў Італію. Валодзя пазнаёміў нас з італьянцам Анжэла Расіні, ён быў камандзірам партызанскай групы. Анжэла прывёў нас да патрона (памешчыка). Тут нас пераапранулі ў добрыя касцюмы, і мы былі залічаны ў 45-ю брыгаду «Гарыбальдзі».

Мы былі вельмі знясіленыя. Нам давалі адпачыць і на заданні накіроўвалі рэдка. Вайна заканчвалася. Партызаны першыя ўвайшлі ў Мілан. Немцаў прыціснулі амерыканцы, і яны ўжо не супраціўляліся. А ў чэрвені—ліпені 1945 года было аб'яўлена па радыё, што ўсе рускія, якія ўцяклі з палону, павінны прыбыць на рэпатрыяцыйныя пункты для адпраўкі на радзіму.

Я адразу прыехаў, куды было ўказана, і пачаў чакаць адпраўкі. Нас пераапранулі ў амерыканскую форму. Падалі машыны, і негры, удалыя шафёры, павезлі нас у Аўстрыю. Тут, у горадзе Цветль-Шціфт, намі занялося НКУС. Пачаліся цяжкія допыты: дзе жыў? дзе служыў? як у палон трапіў? Праз гэтае сіта я праходзіў тры месяцы. Нарэшце, падабралі нас шэсць чалавек і накіравалі ў Венгрыю. У горадзе Кечкемет мы атрымалі выбракаваных коней з воінскіх часцей і пагналі іх сваім ходам праз Венгрыю, Румынію і Закарпацкую Украіну. У горадзе Каламыя раздалі іх па разнарадцы.

Увосень 1945 года я атрымаў дакументы і прыехаў у свой райваенкамат. У вёсцы Новае Палессе ад роднага дома застаўся толькі попел. У раённым цэнтры Круглае атрымаў я пашпарт на шэсць месяцаў, уладкаваўся на работу на будаўніцтва цагельнага завода.

У чэрвені 1946 года прыйшла да мяне міліцыя, прымусіла сабрацца і змясціла ў камеру. Прасядзеў месяц. Потым з такімі ж быў накіраваны ў Магілёў і далей — па чыгунцы — у Карэла-Фінскую ССР, горад Кандапога, на папяровы камбінат. Камендант зачытаў, што прыбылі мы на спецпасяленне тэрмінам на шэсць гадоў. Без права выезду з горада.

Хто пачаў даходзіць пакрысе, хто адразу памёр, а я без дазволу паехаў дадому ў сваё Круглае. У 1947 годзе мяне арыштавалі за самавольны выезд са спецпасялення. Месяц трымалі ў камеры ў Круглым, а потым павезлі ў абласную турму ў Магілёў. Тут мяне змясцілі ў 127-ю камеру на трэцім паверсе — і пайшлі допыты. Будзяць у 12 гадзін ночы — і ў падвал. Там сядзіць капітан-чэкіст: пытаецца мала, больш пакурвае, некуды ідзе на гадзіну і больш. Потым вядуць назад у камеру. Сямімесячныя допыты нічога не далі, і мяне перавялі ў 132-ю камеру — адзіночку.

Працэдура старая: апоўначы вядуць на допыт, надае чэкіст па мордзе — і зноў у камеру. 300 грамаў хлеба, міска баланды, 9 грамаў цукру. У адзіночцы я прасядзеў чатыры з палавінай месяцы.

Нарэшце адчынілася акенца камеры і мне зачыталі прыгавор. Асобая нарада МУС РСФСР (тройка) замяніла спецпасяленне тэрмінам пакарання з утрыманнем у калоніі строгага рэжыму па артыкулу 82, частка II. Прыйшоў вартаўнік, і мяне перавялі ў агульную камеру, большую.

Нядоўга пратрымаўшы ў Магілёве, нас накіравалі ў перасылачную турму Оршы. Тут сфарміравалі этап на поўнач, на 501-ю сталінскую будоўлю. Пагрузілі ў невялікія крытыя таварныя вагоны чалавек па 50—60. На вагонах буйнымі літарамі было напісана «Смала»— нейкі чэкісцкі код.

Везлі доўга. У вагоне стаяла параша, дыхаць не было чым. А карміліі так: давалі па кавалку салёнай рыбы, але без усялякай вады. Прасілі ў канвоя: «Начальнік, дай сняжку!». Злітуюцца, пададуць на прыпынку бочачку снегу, а снег жа мала хто да роту данясе. Як накінуцца на бочачку ўсім вагонам, ён больш пад ногі ляціць. Хто мацнейшы — стаялі ля крапежных балтоў. Звонку балты астынуць, а ўнутраная частка інеем пакрыецца. Вось і лізалі жалеза.

Прывезлі на Пячору. На варотах вялікімі літарамі напісана «ЦПП Пячора» (цэнтральны перасыльны пункт). Тут нас доўга не трымалі, накіравалі ў тундру. Нас, зэкаў, было чалавек 350. На месцы паказалі забіты калок з надпісам «313 калона». Далі вялікую брызентавую палатку. Мы паставілі яе, расцягнулі. У палатцы замест печкі паставілі жалезную бочку, вывелі трубу і пачалі паліць карлікавай бярозай. Ніякай пасцелі. Хто ў чым быў апрануты таксама ж, не распранаючыся, уладкоўваліся на падлозе. Спалі шчыльна адзін да аднаго, варочаліся па камандзе. У шчыліны задувала снегам, да раніцы ўсе былі накрытыя, як прасцінай. Карміліі два разы. На першае поліўка з жытнёвай мукі, на другое — лыжак 5—6 куляшу. Хлеба ніякага.

Без лазні развяліся вошы. Падыходзіць бедалага да бочкі-печкі, здымае кашулю, страсяне — толькі іскры ляцяць ад гарачага металу. Сяк-так зляпілі лазню. Брыгады па чарзе хадзілі мыцца. Распранушча здыхлі — і сваіх жа, з адной брыгады, не пазнаеш. Глядзіш і здзіўляешся: як толькі чалавек на нагах трымаецца, шкілет у лабараторыі прыгажэйшы.

У мяне на фармуляры была чырвоная паласа і напісана «Уцякач». Усе штрафныя калоны былі мае. Пасля сартавання трапіў я ў 59-ю калону. Гэта быў канцлагер узмоцненага рэжыму. Кожны дзень на вахту прыносілі галовы зэкаў, прагуляных у карты. Затое лагерная арыстакратыя: зладзеі, рэцыдывісты — жылі вольна. Спецадзенне, прадукты — усё было ў іх распараджэнні. Заробленыя грошы зэкам выдавалі праз акенца вахты ў прысутнасці аховы. Зняволеныя толькі распісваліся, а грошы да капейкі забіралі блатныя. Яны аддавалі іх ахове, а тая прыносіла з волі спірт, папяросы.

Не было той ночы, каб ахова з рэцыдывістамі не ўчыняла бойкі. Заходзіць наглядчык-чэкіст і крычыць: «Што, гады, не храпяцё?». Усе ў бараку пачынаюць храпець. Адразу ж другі крык: «Што ж гэта вы, гады, храпяцё, наглядчыка пужаеце?» — і пайшла дубінка ў ход. «Выходзь строіцца!» Гэта ўсё апоўначы, на вуліцы мароз 45 градусаў.

Усе вылятаюць з барака і печку-бочку з сабой выносяць. Каманда: «Кладзіся!» — усе кідаюцца ў снег, ляжаць. Зноў крык: «Адбой!» — зэкі стрымгалоў кідаюцца ў барак, апошніх б'юць дубінкамі, куды папала: па галаве, па рэбрах. Уся ўлада была ў галаварэзаў і чэкістаў, яны працавалі зладжана. Не спадабаўся ім, цябе расстралялі, а фуфайку тваю на калючы дрот закінулі — спрабаваў уцячы.

У гэтай жа, 59-й калоне, брыгада з трыццаці чалавек не вытрымала здзекаў, уцякла. А куды ўцячэш, калі тундра голая вакол на тысячу вёрст? Тут жа прыляцелі на «кукурузніках» узброеныя да зубоў чэкісты.

Пачалася аблава. 27 трупаў падцягнулі да варот зоны, склалі ў шарэнгу. А потым дні чатыры, выводзячы зняволеных на работу, спынялі каля іх і растлумачвалі, што так будзе з кожным, хто задумае ўцякаць.

Для трупаў рыхтавалі катлаваны. Запаўняюць адзін, выкопваюць другі. Забівалі не толькі збрәяй, але і голадам. А калі што і прывозілі ў калону, дык забіралі рэцыдывісты і «сукі» — памочнікі аховы з крымінальнікаў. Прыйдзеш на абед— у тваім кацялку спачатку пагаспадарыць блатны, выцягне з дна што пагусцей, а ты ваду сёрбай. Вось так і даходзілі. Лютавала цынга. Людзей спісвалі проста: бірка на нагу — і ў катлаван. Выжывалі толькі моцныя духам, хто ўмеў цярпець праз «не магу».

Вызвалілі мяне ў маі 1951 года, яшчэ да смерці Сталіна. У родную Беларусь вярнуўся ў жніўні 1952 года. Завёў сям'ю, нажыў трох сыноў.

Я доўгія гады ўтойваў ад іх горкую праўду свайго жыцця. Прыйшоў час расказаць. Калі я быў у Італіі, за год асвоіў на 70 працэнтаў італьянскую мову. Мне прапаноўвалі: заставайся, жыві ў Італіі. Прыходзілі вярбоўшчыкі Польскага легіёна. А мне Радзіму, маю Беларусь, ніхто і нічым не заменіць.

Калі мяне арыштавалі ў 1946 годзе, у мяне забралі даведку, выдадзеную 45-й брыгадай «Гарыбальдзі» на італьянскай мове. Забралі і другую даведку— падзяку камандзіра часці за дастаўку коней у Каламыю. Адрас майго камандзіра групы партызанскага атрада 45-й брыгады «Гарыбальдзі»: Італія, Мілан, вуліца Касана Дада, Расіні Анжэла. Мой удзел у партызанскім руху ў Круглянскім раёне мог бы пацвердзіць Сяргей Ягоравіч Жунін, з якім мы часта сустракаліся і гутарылі ў Аладзінцы ў 1942—1943 гадах.

Жыву я цяпер у горадзе Верхнядзвінску Віцебскай вобласці, вуліца Савецкая, дом 164, кватэра 4. Васілеўскі Баляслаў Уладзіміравіч.

**Запісаў Уладзімір ФАКЕЕЎ.**

ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

## А што, калі вярнуцца да «ляснога бензіну»?

Пайшоў неяк у лес і дзіву даўся: колькі тут валяецца ўсялякага ламачча — галінкі дрэў, шышкі і нават цэлыя ствалы. І ўсё гэта нікому не патрэбна.

Вось і ўспомніў, што пасля вайны гадоў дваццаць запар на Чэрвеньскай аўтабазе з поспехам працавала некалькі дзесяткаў грузавых аўтамабіляў, але толькі не на бензіне ці дызельным паліве, а на цурках, кароткіх калодачках сухога дрэва —бярозы, вольхі і інш. Нават гусенічны трактар, мабыць трафейны, таксама працаваў на такім паліве. І толькі ў канцы шасцідзесятых гадоў гэтыя аўтамабілі былі пераведзены на бензін, які тады быў таннейшы за газіраваную ваду.

Вось у мяне і ўзнікла прапанова: а што, калі нейкую частку трактараў і грузавых аўтамабіляў у Беларусі перавесці на мясцовае паліва, а газагенератарныя ўстаноўкі, якія ставіліся на тагачасныя аўтамабілі, дапрацаваць так, каб можна было выкарыстаць не толькі бярозавыя цуркі, але і брыкеты з торфу, шышак і хваёвых галінак. Тады праблема дэфіцытнага паліва не стаяла б так востра: тыя ж цуркі або брыкеты зможа нарыхтаваць сам фермер, любая гаспадарка.

Мне могуць запярэчыць, што так і паравоз можна зноў пусціць па рэйках. А што? Мабыць, на некаторых мясцовых лініях і можна, тым больш, што шмат паравозаў стаіць без справы, напрыклад, на станцыі Негарэлае (бачыў іх сам).

А на лесапілавачных пунктах, млынах, збожжасушыльных комплексах мог бы яшчэ папрацаваць і лакамабіль, каб толькі яго было дзе ўзяць. І была б значная эканомія электраэнергіі.

На маю думку, перавод часткі грузавога аўтатранспарту і трактараў на мясцовае паліва больш мэтазгодны, чым шырокае вяртанне да конскай цягі, як некаторыя прапануюць.

**Сяргей ЛАДУЦЬКА,**
**дацэнт кафедры механізацыі Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута, кандыдат тэхнічных навук.**

## Чаму такі бедны выбар?

Магчыма, хто-небудзь палічыць, што гэта дробязь і не варта аб ёй узнімаць гаворку на старонках газеты. Хоць, на мой погляд, як і на думку многіх, тут ёсць нямала пытанняў, на якія хацелася б не тое што атрымаць адказы (балбатні хапае), а ўбачыць разумныя дзеянні, рэагаванне.

Давайце вернемся да апошняй табліцы грашова-рэчавай латарэі, тыраж выйгрышаў якой адбыўся 26 чэрвеня. Тут рэчавых выйгрышаў усяго крыху больш за сорак. Астатнія—грашовыя. Па-першае, якія ж гэта грошы? Мізэр, капейкі (25, 50, 100 рублёў у пераважнай большасці). Нават на пляшку гарэлкі ці кілаграм цукру не выходзіць.

А што з рэчаў? Можна толькі здзівіцца беднасці выбару. Гэта ж сапраўдная абраза не ўдзельнікаў розыгрышу латарэі, а перш за ўсё маёй радзімы, Беларусі. А разам з тым, гэтая беднасць характарызуе ў першую чаргу ўсіх тых, хто з'яўляецца арганізатарам правядзення беларускіх латарэй. Выходзіць так: абы ашукаць, абы сабраць мільёны з людзей. Але, маўляў, крыўды не можа быць, не павінна—самі добраахвотна купляюць білеты. Усё гэта, зразумела, так. Адно незразумела: няўжо нельга расшырыць выбар рэчавых выйгрышаў, няўжо ў нас на Беларусі няма чаго прапанаваць удзельнікам гэтай гульні? Напрыклад, той жа посуд, шкляны, фаянсавы, керамічны, крышталь. Тыя ж швейныя вырабы, галаўныя ўборы, веласіпеды, дзіцячыя цацкі—усё, чым багатая наша рэспубліка.

Мне здаецца, варта перагледзець не толькі асартымент, абнаўляць, мяняць яго з кожным выйгрышам, але і працэнт выйгрышаў, бо сёння ён вельмі нязначны.

**Іван ГОВАР, настаўнік.**

г. п. Іўе.

## Некалькі пытанняў да паштовай службы і мытні

Два апошнія гады атрымліваю ад нямецкага сябра пасылкі да калядных і навагодніх свят. Вядома, што мой былы нямецкі калега адпраўляў іх за тры-чатыры тыдні да адпаведнай падзеі, маючы на ўвазе чакаемую цывілізаванасць нашых камунікацый і адносную блізкасць краін. Але, панове! «Скрыні» я атрымаў аж у красавіку 1991 і ліпені 1992 года. Гэта сведчыць, што пасылкі ішлі адпаведна пяць і восем месяцаў!

У сувязі з вышэйсказаным узнікаюць пытанні. Па-першае, што мяркуецца рабіць у сістэме пошты і мытні ў напрамку павышэння адказнасці канкрэтных службовых асоб за канкрэтныя парушэнні, каб ліквідаваць падобныя дзікунскія выпадкі?

Па-другое, ці існуе нейкая канцэпцыя развіцця ўрадавых галін на Беларусі, бо сённяшняя рэчаіснасць сведчыць аб тым, што ўстановы, у асноўным, клапоцяцца аб тым, як спрытней залезці ў кішэню простага грамадзяніна, а не займаюцца ўдасканаленнем сваёй дзейнасці і структур?

**А. ІОНЧАНКАЎ.**

г. Наваполацк.

Завяршылася ўборка ў калгасе «Авангард» Асіповіцкага раёна. На плошчы 900 гектараў атрымана па 40 цэнтнераў з гектара. На ўборцы вызначыліся экіпажы камбайнераў Святаслава ПАНКЕВІЧА, Рыгора АЛЯШКЕВІЧА, Мікалая ЛЕЎЧУКА, вадзіцелі Мікалай АХРАМЕНКА, Генадзь ГУЛЯЕЎ, Мікалай СОБАЛЕЎ.

НА ЗДЫМКУ: адзін з лепшых экіпажаў — камбайнер Святаслаў ПАНКЕВІЧ і яго памочнік дзесяцікласнік Мікалай АНДРЫЕВІЧ.

Фота Уладзіміра АДАРЫЧА.

